# ПАГОНЯ

Чацвер
23 лістапада 2000 г.
№ 44 (491)
Кошт 70 рублёў


## Чарговае незаконнае папярэджанне ПАГОНІ

ПАГОНЯ атрымала чарговае - чацвёртае ў гэтым годзе - папярэджанне Дзяржкамдруку. Як вядома, паводле лукашэнкаўскага заканадаўства, наяўнасць двух папярэджанняў можа пацягнуць закрыццё газеты ў пазасудовым парадку.

Гэтым разам Дзяржкамдрук палічыў, што надрукаваная 26 кастрычніка 2000 года газетай заява Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» супярэчыць патрабаванням закона пра забарону распаўсюджвання інфармацыі ад імя суб'ектаў, якія не прайшлі рэгістрацыю.

Рэдакцыя ПАГОНІ катэгарычна не згодная з тым, што грамадская ініцыятыва павінна недзе рэгістравацца. Інакш любая сустрэча, размова ці нарада знаёмых людзей падлягала б рэгістрацыі таксама. Але гэта супярэчыць беларускім законам.

Папярэджанне падпісаў наш стары знаёмы, першы намеснік Дзяржкамдруку спадар Глушакоў. І гэтым разам дакумент напісаны на рускай мове.

Ул. інф.

## Рэпрэсіі да «Новай газеты Смаргоні»

**14 лістапада падатковымі інстанцыямі быў арыштаваны банкаўскі рахунак «Новай газеты Смаргоні». Як паведаміла ПАГОНІ выпускаючы рэдактар Аліна Суравец, падставы гэтага рэдакцыі не паведамілі. Адзінае, што можна сцвярджаць, - гэта тое, што прычынай арышту рахунку з'явіліся вынікі праверкі, якую праводзіла абласная падатковая інспекцыя разам з удзелам прадстаўнікоў падатковага камітэта з Менска.**

Паколькі рэдактар Раман Улан знаходзіцца зараз у Літве, то ён яшчэ не азнаёмлены з актам праверкі. Паводле словаў Аліны Суравец, рэдактар выкліканы ў абласную падатковую інспекцыю на 22 лістапада. Цікава, што позва была ўручаная не самому Улану, а 12-гадоваму сыну ягонай жонкі.

Калектыў рэдакцыі схільны разглядаць падатковыя санкцыі як помсту за спробу вылучэння Рамана Улана кандыдатам у дэпутаты парламента.

Нягледзячы ні на што, газета працягвае выходзіць.

Ул. інф.

## Выснову зробіць суд?

**У чарговы раз Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» пісьмова адмоўлена ў просьбе перапастаноўкі на ўлік яе структуры, якая існуе ў Кастрычніцкім раёне абласнога цэнтра. Неабходныя дакументы былі пададзеныя ў гарвыканкам яшчэ ў пачатку красавіка.**

Як сведчыць старшыня гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Сяргей Мальчык, кіраўніцтва гарвыканкама заўсёды знаходзіць прычыну, каб адтэрмінаваць рашэнне. Як правіла, пісьмовыя адмовы падпісвае намеснік старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык. Цяпер на ўліку знаходзіцца арганізацыя БНФ «Адраджэньне» Ленінскага раёна горада. Гарадская суполка па закону павінна складацца з двух і болей арганізацый. Адмова ў пастаноўцы на ўлік арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Кастрычніцкага раёна горада Гродна стрымлівае стварэннe агульнай гарадской структуры. У гарвыканкам пададзена чарговая заява. Не выключана, што гарадзенскім кіраўнікам БНФ «Адраджэньне» давядзецца звярнуцца ў суд.

Сцяпан Ярашчук




24, 25 лістапада - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўночны, 6-9 м/с. Тэмпература паветра 24, 25 лістапада - уначы 0...+2, удзень +3...+6.

## Перамены каштуюць грошай

**Працягваюцца судовыя расправы над удзельнікамі пікету, які праходзіў 12 лістапада пад лозунгам «Моладзь патрабуе пераменаў». Дзевяці з іх ужо вынесеныя прысуды. Учора а 15-й гадзіне Андрусь Мялешка быў аштрафаваны на 170 мінімальных заробкаў. Яшчэ двум маладзёнам прызначаныя суды на другую палову дня 22 і на 23 лістапада.**

Вынікі судовых працэсаў над пяцю пікетоўцамі ПАГОНЯ паведаміла ў мінулым нумары.



15 лістапада быў вынесены прысуд актывісту Маладой Грамады Андрусю Мельнікаву - 20 мінімальных заробкаў (72 тысячы рублёў) і Вользе Філіповіч, якая атрымала папярэджанне.

16 лістапада скончыўся суд над Алесем Лашкоўскім, які дагэтуль пераносіўся тры разы ў сувязі з тым, што Алесь патрабаваў перакладчыка. Суддзя Сяргей Ярашэвіч не задаволіў патрабаванне Алеся. Замест гэтага ён выклікаў яго школьную класную кіраўнічку. Яна засведчыла, што Алесь вучыўся ў звычайнай рускамоўнай школе і за чатыры гады наўрад ці забыўся рускую мову. Але яна падтрымлівае тое, што ён вучань размаўляе па-беларуску. Упершыню сярод судовых працэсаў над удзельнікамі пікету на судзе над Алесем Лашкоўскім у якасці сведкі выступіў намеснік старшыні Ленінскага РАУСу Мікола Галаўко, які кіраваў затрыманнямі на акцыі 12 лістапада. Алесь Лашкоўскі быў аштрафаваны на 30 мінімальных заробкаў (108 тысяч рублёў).

Двух студэнтак гістфака пасля вынясення ім 15 лістапада прысуду (адной - папярэджанне, другой - 20 мінімальных заробкаў) запрасіў з бацькамі да сябе на размову дэкан факультэта Іван Крэнь. Паводле словаў дзяўчат, ён загадаў ім напісаць тлумачальныя запіскі, у якіх яны мусілі пазначыць прозвішчы пікетоўцаў, а таксама тое, хто і колькі даваў ім грошай, каб яны прынялі ўдзел у пікеце. На пярэчанні дзяўчат, што ніхто ім ніякіх грошай не даваў, ён адказаў, што ведае гэта напэўна.

21 лістапада быў абвешчаны прысуд Вользе Івановай - 25 мінімальных заробкаў. У гэты ж дзень мусілі адбыцца яшчэ тры суды. Аднак судовы працэс прайшоў толькі над старшынём Гарадзенскага Маладога Фронту Андрусём Мялешкам. Ён абвінавачваўся ў арганізацыі несанкцыянаванага пікету 12 лістапада і ўдзеле ў шэсці 8 кастрычніка. Адвакат Андруся Уладзімір Кісялевіч, прапанаваны яму праваабарончым цэнтрам «Вясна», лічыць беспадстаўным другое абвінавачванне, вынесенае А.Мялешку: «...Артыкул 167 са значком 1 частка 1 не прадугледжвае пакаранне за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. У шэсці 8 кастрычніка прымалі ўдзел каля 1000 чалавек. Чаму тады судзяць толькі Мялешку? З такім жа поспехам у нас можна асудзіць палову краіны за ўдзел у масавых апазіцыйных акцыях...».

У сваёй завяршальнай прамове Андрусь заявіў: «Я не лічу сябе вінаватым,.. таму што хацець і патрабаваць пераменаў няшкодна і несупрацьзаконна...». Астатнія два суды над Святланай Нех і Вадзімам Саранчуковым таксама былі перанесены адпаведна на сераду і чацвер. Таму паведаміць пра прысуд адносна іх ПАГОНЯ не мае магчымасці, паколькі выходзіць у друк адначасова з судовым паседжаннем.

На ўсіх судах над пікетоўцамі прысутнічалі: старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення «Вясны» Сяргей Мальчык і старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення БХК Аляксандр Антанюк. А на суд над Андрусём Мялешкам была запрошаная юрыдычны дарадца АБСЕ Надзея Дударава. Менавіта яе прысутнасць, лічыць Уладзімір Кісялевіч, зрабіла суддзю больш абачлівым, з-за чаго суды і былі перанесены на іншыя дні.

Надзея Дударава параіла чатыром маладзёнам, якіх затрымалі на суткі ў ізалятары Ленінскага РАУСу, абскардзіць дзеянні міліцыянтаў на імя пракурора і падаць скаргу ў суд.

- ...Закон прадугледжвае затрыманне толькі да суда, але не ўказваецца тэрмін, у які ён павінен адбыцца. З іншага боку, нельга затрымліваць больш чым на тры гадзіны. Альбо праз тры гадзіны над маладзёнамі павінен быў адбыцца суд, альбо іх мусілі абавязаць на яўку ў суд падпіскай. У Менску ўжо было два падобных выпадкі, калі праваабаронцы АГП выйгралі суд над міліцыянтамі за збіццё і незаконнае затрыманне, і з іх былі спагнаны штраф за маральны ўрон у памеры 50 даляраў, - сцвярджае спадарыня Дударава.

Алеся Сідлярэвіч

## Сябры жыллёвых кааператываў патрабуюць спыніць перарэгістрацыю

**Вялікія праблемы выклікае кампанія па перарэгістрацыі юрыдычных асобаў, якая праводзіцца на падставе ўвядзення новага Грамадзянскага кодэкса.**

Паводле Дэкрэта прэзідэнта N11 ад 16 сакавіка мінулага года гарадзенскі аблвыканкам абавязаў у тэрміновым парадку перарэгістравацца не толькі суб'екты гаспадарання, але таксама жыллёва-будаўнічыя кааператывы ды іншыя таварыствы кватэранаймальнікаў. У адваротным выпадку выканкам паведамляе, што тыя, хто не прайшоў перарэгістрацыю, будзе падлягаць санкцыям: будзе зачынены банкаўскі рахунак.

Аднак ўладальнікі кватэраў і дамоў не пагадзіліся з прымусовай пастановай аблвыканкама. Яны падрыхтавалі ліст за подпісам 27-мі кіраўнікоў кааператываў і ў панядзелак, 20 лістапада, спрабавалі перадаць яго намесніку старшыні выканкама А.Вяляеву. Намеснік хадакоў не прыняў, з людзьмі размаўляла нейкая дробная служачая, якая паведаміла, што трэба выконваць Дэкрэт. Між тым, сябры жыллёвых кааператываў сцвярджаюць, што яны не падпадаюць пад дзеянне новага заканадаўства, паколькі яно тычыцца толькі суб'ектаў гаспадарання. «Кааператывы не займаюцца здабываннем прыбытку, таму не падпадаюць пад дзеянне Дэкрэту», - даводзяць кватэранаймальнікі. Калі ж кіраўніцтва вырашыла правесці нам перарэгістрацыю, то няхай выдаткуюць на гэтыя мэты грошы і перанясуць тэрміны, лічаць кватэранаймальнікі.

Адзінай добрай весткаю была інфармацыя пра тое, што перарэгістрацыя працягнута да першага ліпеня 2001 года. Пасля сустрэчы прадстаўнікоў жыллёвых кааператываў з першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна горада Гродна Барысам Фёдаравым апошні паабяцаў кампенсаваць кошт перарэгістрацыі ў памеры адной мінімальнай зарплаты. Пра кампенсацыю коштаў змены пячатак, штампаў і банкаўскіх атрыбутаў пытанне засталося адкрытым.

Міхась Капялюш

## Мужчыны супраць СНІДу

**1 снежня ў Гродне пройдзе Дзень прафілактыкі СНІДу пад дэвізам «Многае залежыць ад мужчынаў».**

Як гаворыць супрацоўніца абласнога Цэнтру прафілактыкі СНІДу Таццяна Кісялёва, «гаворка ідзе не пра нейкія прэтэнзіі да мужчынаў. Але, каб яны былі больш адказныя, эпідэмія СНІДу не распаўсюдзілася б так хутка...». У гэты дзень увага работнікаў аховы здароўя будзе скіраваная на мужчынаў як бацькоў і мужоў, адказных за будучае сям'і і краіны.

За апошнія два тыдні на Гарадзеншчыне зарэгістравана яшчэ два выпадкі ВІЧ-інфекцыі, тры выпадкі знаходзяцца на пацверджанні. Усяго на Гарадзеншчыне - 108 ВІЧ-інфікаваных. У рэгіёне Усходняй Еўропы толькі 20 працэнтаў інфікаваных - жанчыны. На Гарадзеншчыне - каля трэцяй часткі.

Алена Сіневіч

## Пакуль міліцыя змагаецца з апазіцыяй...

**У мінулыя выхадныя па Гродне пракацілася хваля вулічных рабункаў. 18 лістапада па два такіх злачынствы ўчынены ў Ленінскім і Кастрычніцкім раёнах горада.**

Напрыклад, на вуліцы Гагарына трое зламыснікаў збілі навучэнца прафтэхвучылішча і адабралі ў яго скураную куртку. На праспекце Будаўнікоў рабаўнік-адзіночка напаў на мужчыну сярэдніх гадоў і адабраў у яго 50 тысяч рублёў. На вуліцы Мендзялеева двое рабаўнікоў збілі мужчыну і завалодалі замшавай курткай, двума залатымі пярсцёнкамі, залатым ланцужком з крыжыкам, пашпартам і 3 тысячамі рублёў. Куртку са скуразаменніка, наручны гадзіннік і 6 тысяч рублёў забралі таксама двое рабаўнікоў, якія збілі маладога чалавека на вуліцы Будзёнага.

Асобы людзей, якія ўчынілі ўсе гэтыя злачынствы, і іх месцазнаходжанне пакуль невядомыя. Раскрыты пакуль толькі адзін рабунак, які ўначы 18 лістапада ўчыніў у інтэрнаце на вуліцы Новакастрычніцкай студэнт, што збіў маладога чалавека і скраў у яго 100 даляраў ЗША.

Ася Куніцкая

## Галубамі і вераб'ямі не здавальваюцца

**У лістападзе-снежні з абласцей рэспублікі будзе пастаўлена ў Менск 9 200 тон мяса буйной рагатай жывёлы і свіней у лік паставак для дзяржаўных патрэбаў. Распараджэнне аб гэтым падпісаў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.**

Сярод рэгіёнаў найбольшыя аб'ёмы паставак ускладзены на Гарадзенскую (2 500 тон) і Гомельскую (1 600 тон) вобласці. Затым ідуць Менская і Магілёўская (па 1 500 тон), Берасцейская (1 300 тон) і Віцебская (800 тон) вобласці. Апрача таго, да канца года вобласці павінны паставіць сталіцы 3 150 тон мяса птушкі: па 1 575 тон у кожным месяцы.

Аляксей Арэшка

**У 43-м нумары газеты ў артыкуле "Памяць пакутніка" па віне аўтара была допушчана памылка. Протапрэсвітар айцец Віктар не прысутнічаў падчас праваслаўнай літургіі мітрапаліта Філарэта ў сьвятыні Полацка – Сафійскім Саборы. Аўтар просіць прабачэньня за падачу ў газету недакладнёных зьвестак у айца Віктара й чытачоў.**

# Каго бачаць у Крамлі прэзідэнтам Беларусі?

**Нягледзячы на тое, што выбары прэзідэнта краіны яшчэ не абвешчаныя, выбарчая гонка ўжо даўно распачалася. Аляксандр Лукашэнка пры любой магчымасці заяўляе, што наступным прэзідэнтам будзе менавіта ён, абяцае падвысіць заробкі да 100 даляраў, палохае наменклатуру масавымі звальненнямі у выпадку прыходу да ўлады новых лідараў. Пакуль што афіцыйны бок дэманструе свой звычайны прымітывізм. У А.Лукашэнкі вельмі малая прастора да манеўру. Новых сілаў яму дадалі б кантакты з дэмакратамі, але ён сам сышоў з гэтага поля, і мабыць, назаўсёды.**

Таму больш спрыяльныя ўмовы для вядзення выбарчай кампаніі цяпер ў кандыдата ад апазіцыі. У яго ёсць магчымасць для стварэння кааліцыяў, саюзаў з рухаў любога палітычнага спектру. Праграма апазіцыі можа ўключаць патрабаванні ўсіх пластоў грамадства, ад кіруючай наменклатуры да радыкальных патрыётаў (чаго А.Лукашэнка сабе дазволіць не можа, каб не паказваць слабасці. Дый, хто ж яму паверыць?). Таму шанцы альтэрнатыўнага кандыдата на прэзідэнта выглядаюць вельмі рэальнымі, калі не сказаць больш.

Праблема ў тым, каб апазіцыйныя дзеячы ізноў не змарнавалі гістарычны момант. Тым больш, што рэжым будзе наўмысна развальваць адзінства, правакаваць інтрыгі ды канфлікты. Ужо сёння бачныя будучыя памылкі. Напрыклад, вялікае распаўсюджанне атрымала версія, быццам Крэмль гатовы змяніць А.Лукашэнку, як змянiў у Югаславіі ў верасні С.Мілошавіча на В.Каштуніцу. Гэтая версія існуе ў двух варыянтах.

Паводле першага, Аляксандр Лукашэнка не задавальняе маскоўскіх ліབералаў, якія хочуць, каб Беларусь правяла рынкавыя рэформы і далучыла сваю эканоміку да расейскай (а тады рускія капіталісты разам з мясцовымі наменклатурнымі дзялкамі хуценька падзеляць дзяржаўную маёмасць, маючы ў руках палітычную ўладу). А наш Аляксандр Рыгоравіч далучацца да расейскіх рэформаў не жадае. Адсюль вынікае, што ліберальнае крыло маскоўскай улады дапаможа скінуць узурпатара.

Паводле другога варыянта, сам Уладзімір Пуцін незадаволены прэтэнзіямі на славянскае лідарства беларускага выскачкі. Лідар усіх славянаў вызначаны яшчэ апошнімі маскоўскімі рурыкавічамі, прэтэнзіі з боку «Вялікага княства Літоўскага» тут недарэчы. Да таго ж, значныя праблемы Крамлю складае вядомая ўсяму свету харызма (якая і не харызма ўвогуле, а так - звычайная псіхапатыя і дэфекты выхавання). «Грашовыя торбы» з Захаду просяць паўплываць на саюзніка. А за грошы Крэмль зробіць што заўгодна.

Абодва варыянты - гэта ўсяго толькі апісанне цяжкасцяў у стасунках паміж афіцыйным Менскам і Крамлём, не больш таго. Цяжкасці заўжды былі і застануцца надалей. Для Крамля галоўнае - тое, што Беларусь, пакуль ёю кіруе А.Лукашэнка, ніколі не збочыць з вызначанага Масквою накірунку. Калі ў крэсла прэзідэнта пасадзіць іншага, то новы кіраўнік Беларусі не зможа так жорстка змагацца з нацыянальна-патрыятычным рухам. Беларусь пачне праводзіць усё больш самастойную палітыку, выходзіць з-пад уплыву Расеі.

Такім чынам, каб трымаць Беларусь у ранейшай ролі сатэліта Расеі, а ўладу ў Менску - у якасці падпявалы Крамля, існуе толькі адна мажлівасць: гвалтоўна падаўляць дэмакратычную апазіцыю. І наадварот, дэмакратыя ў Беларусі азначае для Масквы страту кантролю над краінай. Чым больш дэмакратыі - тым менш кантролю. Найбольш Маскву задаволіў бы суровы таталітарны рэжым падаўлення дэмакратыі ў Беларусі.

Усе знакі незадавальнення, якія апошнім часам выказвае Крэмль А.Лукашэнку, носяць выключна выхаваўчы характар. Навошта Крамлю мяняць Лукашэнку на, умоўна кажучы, гэткага ж Лукашэнку, толькі горшага, бо ён адзіны ў гэтым родзе? Так што спадзевы на дапамогу з Усходу - абсалютна марныя. Усе памятаюць, як адзін такі, па прозвішчы Шарэцкі, таксама заглядваў у той бок. А ў выніку быў прададзены і кінуты.

Усход будзе размаўляць толькі з тым, хто падасць неабвержныя доказы будучай перамогі.

**Сяргей Самасей**

# Рэгіянальная Беларусь шукае будучага прэзідэнта

**Ужо да канца 2000 года дэмакратычныя сілы рэспублікі павінны вызначыцца з адзіным кандыдатам на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах, а ў студзені 2001 года - назваць гэтую кандыдатуру. Так лічыць кіраўнік каардынацыйнага савета «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш, які 18 лістапада ў Брэсце разам з членамі савета абмяркоўваў гэтую праблему.**

Сямён Домаш падкрэсліў, што зараз галоўнае - вызначыць стратэгію і тактыку на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Што да адзінага кандыдата, то называць нейкія прозвішчы Домаш не стаў, адзначыўшы, што зараз такіх кандыдатур шмат: «Праблема - правільна вызначыцца. Гэты чалавек павінен адпавядаць многім крытэрыям, падабацца людзям». Сямён Домаш не выключае, што дэмакратычная апазіцыя можа выступіць з заклікам байкатаваць і прэзідэнцкія выбары. Здарыцца гэта, паводле яго ных слоў, у тым выпадку, калі ўлада не пойдзе на пэўныя ўступкі (змяненні ў заканадаўстве, доступ апазіцыі да СМІ, спыненне палітычных рэпрэсій і г.д.).

Адказваючы на пытанне, што будзе рабіць апазіцыя, калі Лукашэнка не захоча аддаваць уладу ў выпадку паражэння, Домаш сказаў: «У гэтым выпадку баяцца няма чаго. Мы зараз не адны і не ізаляваны ад свету. Менавіта знешні ціск прымусіць Лукашэнку аддаць уладу. Не падтрымае яго і Расія, калі ён прайграе».

**Валянціна Казловіч**

# Расею хочуць нейтралізаваць

**Беларуская апазіцыя заклікала Захад аказаць уздзеянне на Расею, каб тая «хаця б захоўвала нейтралітэт» падчас прэзідэнцкіх выбараў у краіне. Пра гэта было заяўлена 21 лістапада ў Менску на прэс-канферэнцыі з удзелам лідэраў апазіцыі, якія ажыццявілі тыднёвую паездку па сталіцах еўрапейскіх дзяржаў.**

З 12 па 19 лістапада лідэр БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксей Кароль і былы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Андрэй Саннікаў наведалі Парыж, Брусель, Лондан і Берлін. Яны сустрэліся з генеральным сакратаром Еўрасаюза Хаўерам Саланам, дакладчыкам Савета Еўропы па Беларусі Вольфгангам Берэндтам, намеснікамі міністраў замежных спраў Вялікабрытаніі і Германіі, намеснікам кіраўніка дэпартамента МЗС Францыі па Усходняй Еўропе, парламентарыямі Германіі і Вялікабрытаніі, прадстаўнікамі няўрадавых і праваабарончых арганізацый еўрапейскіх краін, а таксама былым паслом ЗША ў Беларусі Дэніэлам Спекхардам.

Паводле словаў Вінцука Вячоркі, галоўнай мэтай паездкі было «інфармаванне еўрапейскіх палітыкаў аб перспектывах дэмакратызацыі Беларусі ў 2001 годзе, аб сітуацыі, якая можа скласціся вакол прэзідэнцкіх выбараў з улікам адзінства апазіцыі, расійскага фактару і салідарнай пазіцыі ўсіх заходніх краін у адносінах да беларускага рэжыму». «Падчас сустрэч мы не адчулі асаблівага кантрасту ў танальнасці дыскусіі з дыпламатамі розных краін. Еўропа выпрацоўвае салідарную пазіцыю па беларускаму пытанню», - заявіў Вячорка. Адной з галоўных тэм сустрэч лідэраў апазіцыі з еўрапейскімі дыпламатамі быў расійскі фактар.

Лідэр БНФ прывёў выказванне намесніка міністра замежных спраў Германіі Крыстофа Цёпеля, які заявіў, што, на думку Германіі, дэмакратычная перспектыва Расіі і падтрымка ёю антыдэмакратычнага рэжыму ў Беларусі - рэчы несумяшчальныя.

«Мы звярталіся да ўсіх нашых еўрапейскіх суразмоўцаў з просьбай выкарыстаць увесь уплыў і залежнасць ад іх Расіі, каб тая хаця б захоўвала нейтралітэт, не ратуючы Лукашэнку і не навязваючы свайго кандыдата», - сказаў Вячорка.

Паводле словаў Андрэя Саннікава, падчас сустрэч з еўрапейскімі палітыкамі закраналіся таксама эканамічныя пытанні.

«Абмяркоўвалася тэма будаўніцтва другой веткі газаправода «Ямал - Заходняя Еўропа». Мы вітаем ўсё, што ідзе на карысць беларускай эканоміцы. Аднак пры існуючай сістэме ніякай стабільнасці інтарэсаў каго б там ні было забяспечыць у Беларусі немагчыма. Еўрапейцы згадзіліся з гэтай пазіцыяй», - сказаў Саннікаў.

**Дзмітрый Уласаў**

# Ананім абвінавачвае службу бяспекі Лукашэнкі...

**20 лістапада ПАГОНЯ атрымала па электроннай пошце ананімны ліст з выкладаннем інфармацыі, маючай дачыненне да справы аб знікненні ў Беларусі вядомых людзей. Аўтар ліста сцвярджае, што з'яўляецца афіцэрам Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі і абгрунтоўвае прыводзімыя звесткі матэрыяламі крымінальнай справы, узбуджанай па факту знікнення 7 ліпеня 2000 года аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага. Электронны ліст, што прыйшоў у ПАГОНЮ, быў адпраўлены з бясплатнай электроннай паштовай скрыні, што знаходзіцца на серверы yahoo.com.**

**Ніжэй прыводзім поўны тэкст гэтага ліста.**

«Усім, хто прачытае гэтую інфармацыю!

Да справы аб знікненні аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага і апазіцыйнага палітыка Віктара Ганчара!

Я - афіцэр Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. Па цэламу шэрагу абставін не магу паведаміць сваё прозвішча і пасаду, якую займаю. Інфармацыя, якую я хачу паведаміць, значная для грамадства. Ад таго, як хутка яна стане набыткам галоснасці, залежыць жыццё і будучыня многіх людзей. На жаль, я абмежаваны ў выкладанні фактаў, паколькі да матэрыялаў справы мае доступ абмежаваная колькасць аператыўных супрацоўнікаў і афіцэраў КГБ. Прыгадванне больш удакладненых звестак можа прывесці да неапраўданых ахвяр. Вядзенне следства па справе аб знікненні Дзмітрыя Завадскага было даручана Генеральнай пракуратуры і Камітэту дзяржаўнай бяспекі. Факты, якія раскрываліся па ходу следства, выклікалі не толькі ціск на органы следства з боку Савета бяспекі, але і выклікалі супрацьстаянне паміж КГБ і Службай бяспекі прэзідэнта. На след групы выкрадальнікаў КГБ выйшаў пасля арышту Ігнатовіча, былога афіцэра спецпадраздзялення «Алмаз». Ігнатовіч быў арыштаваны па іншай справе, але сам ён некалькі разоў быў у Чэчні, дзе ваяваў на баку сепаратыстаў. Падчас следства Ігнатовіч назваў шэраг прозвішчаў беларускіх ваеннаслужачых, якія супрацоўнічалі з чачэнскімі сепаратыстамі ў якасці інструктараў. Пасля іх арышту пацвердзілася чачэнская версія следства. Па справе аб знікненні Завадскага, на сённяшні дзень, арыштавана 9 чалавек. Пяцёра з іх з'яўляюцца дзеючымі афіцэрамі Службы бяспекі прэзідэнта, двое - былыя супрацоўнікі гэтай службы, адзін - былы афіцэр спецпадраздзялення «Алмаз», а яшчэ двое - нараджэнцы Чачні. Падследныя прызналіся ў забойстве Дзмітрыя Завадскага і ўказалі месца ў лясной зоне непадалёк ад Мінска, дзе было закапана цела Завадскага. У распараджэнні следства аказалася і рыдлёўка са слязьмі (так у арыгінале. - ПАГОНЯ) крыві. Экспертыза выявіла ідэнтычнасць крыві на рыдлёўцы з крывёй Дзмітрыя Завадскага. Эксгумацыя цела Дзмітрыя Завадскага не адбылася. Яе не далі правесці следчай групе кіраўніцтва Савета бяспекі і асабіста прэзідэнт. Замест гэтага ў Адміністрацыю прэзідэнта былі выкліканыя Старшыня КГБ Уладзімір Мацкевіч, Генеральны пракурор Алег Бажэлка і Міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў. Прэзідэнт загадаў перадаць справу ў МУС, матывуючы гэта тым, што следства ідзе недастаткова інтэнсіўна. На самой справе, гэта было зроблена для таго, каб развaліць справу аб знікненні Завадскага. Падчас следства таксама высветлілася, што гэтая злачынная група мела прамое дачыненне да знікнення і забойства апазіцыйнага палітыка Віктара Ганчара. У іх ліквідацыі бралі ўдзел 14 чалавек. Пяцёра з іх знаходзіліся ў вышуку аж да перадачы справы ў МУС. Падчас следства ціск на следчую групу дайшоў да крытычнага пункту. Двое следчых былі збіты, а жонку аднаго з іх спрабавалі згвалтаваць. Але, нягледзячы на гэта, следчыя працягвалі працу па выкрыццю злачынцаў. Я хацеў бы, каб сем'і загінуўшых ведалі - мы не зверы, як некаторыя спрабуюць нас прадставіць. Мы спачуваем вам і разумеем, што нішто не папоўніць вашай страты. Адзінае, што ў нашых сілах - гэта выкрыць злачынцаў. А калі нехта спрабуе гэтых злачынцаў пакрыць, то ім самім не пазбегнуць лавы падсудных».

*Увага! Прыведзены вышэй тэкст ліста змяшчае выкладанне інфармацыі, не пацверджанай афіцыйнымі органамі.*

**У праваахоўных органах стрымана каментуюць факт з'яўлення такога ліста, падкрэсліваючы неадпаведнасць рэчаіснасці шэрагу выкладзеных у ім момантаў. У прыватнасці, як заявіў начальнік упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Пракуратуры Беларусі Віктар Марозаў, змест ліста «па шэрагу момантаў не адпавядае рэчаіснасці». «Гэта незразумелы тэкст», - сказаў ён і параіў перадаць яго для праверкі праваахоўным органам, якія займаюцца расследаваннем абставін знікнення Дзмітрыя Завадскага. Не ўдакладняючы колькасць затрыманых па гэтай справе, Віктар Марозаў разам з тым паведаміў, што некаторым з іх ужо прад'яўлена абвінавачанне; следства працягваецца. Прэс-сакратар міністра ўнутраных спраў Дзмітрый Партан абверг заяву, што ўтрымліваецца ў лісце, аб тым, што справа аб знікненні аператара ГРТ перададзена з рэспубліканскай пракуратуры ў МУС. У той жа час ён пацвердзіў, што адзін з затрыманых па «справе Завадскага» - былы супрацоўнік спецпадраздзялення «Алмаз»...**

# Гарадзенскія сацыял-дэмакраты адмовілі ў даверы Статкевічу

**18 лістапада адбылася канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі БСДП. Абмяркоўвалася пытанне наконт удзелу ў выбарчым фарсе лідара Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча. Апошні прысутнічаў на канферэнцыі разам з Уладзімірам Нісцюком. Гарадзенцы востра крытыкавалі Статкевіча за ўдзел у «парламенцкіх выбарах», а таксама за аўтарытарныя метады кіравання і кар'ерныя памкненні.**

Партыя не можа знаходзіцца ў напружаных адносінах з іншымі дэмакратычнымі сіламі. Таму гарадзенцы разам з Віцебскай, Магілёўскай, Менскай абласной арганізацыямі БСДП і 15-ці сябрамі ЦК партыі ўтварылі аргкамітэт партыйнай фракцыі «Адзінства».

Самае прыкрае, лічаць сябры партыі, тое, што кіраўніцтва не прызнае свае памылкі. Яны спадзяюцца на рашэнні пазачарговага з'езду партыі, які адбудзецца ў снежні.

**Ул.інф.**

# ...а менскія – выключылі Караля!

**Намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксей Кароль выключаны з радоў партыі.**

Такое рашэнне было прынята 20 лістапада на пасяджэнні менскага гарадскога бюро БСДП (НГ). «За» прагаласавалі 9 членаў бюро, «супраць» - 3. Як заявіў 21 лістапада журналістам Аляксей Кароль, яго выключэнне з партыі было ажыццёўлена з парушэннем статута. «На пасаду намесніка старшыні мяне абіраў з'езд, і толькі з'езд мае права вырашыць мой лёс», - лічыць палітык. Паводле яго слоў, яго абвінавацілі ў стварэнні ўнутрыпартыйнай фракцыі і перавышэнні паўнамоцтваў. Кароль назваў «згубнымі» дзеянні старшыні партыі Мікалая Статкевіча і членаў партыі, што яго падтрымліваюць. Гэта, на думку Караля, выяўляецца ў спробах адміністрацыйнага, а не дэмакратычнага вырашэння пытанняў, а таксама ў ігнараванні рашэння з'езда аб няўдзеле ў парламенцкіх выбарах.

**Дзмітрый Уласаў**

# Мяжа на замку, а ключ у кожнага

**Апошнім часам надзвычай шмат гасцей пабывала ў Варэнскім атрадзе памежнай паліцыі. Першым туды прыбыў галоўны камісар памежнай паліцыі А.Сангайла. Справа ў тым, што ў верасні на ўчастку Варэнскага атрада ўсталявана новая апаратура кантролю. Галоўны камісар цікавіўся, наколькі ўся гэтая машынерыя эфектыўная і ці ёсць сэнс усталёўваць яе ва ўсёй Літве?**

Што гэта за тэхніка такая - пакуль яшчэ сакрэт. А я вось ведаю, што мясцовыя жыхары нервуюцца: раней памежнікі патрулявалі на ўсюдыходах- «лендроверах», грукат ад якіх за два кіламетры быў чуваць, а зараз праселі проста на ровары. Паціху падкрадваюцца і без усякай далікатнасці пытаюцца: «І што гэта ты, паночак, з Парэчча нясеш?».

Але сапраўдная кантрабанда з Беларусі ідзе не з боку Парэчча - на плячах па багне шмат не перацягнеш. «Фуры» едуць з боку Забалаці, Радуні: тут са старых часінаў захаваліся малапрыкметныя, але трывалыя сцежкі-дарожкі.

Нельга сказаць, што з гэтым не змагаюцца. Асабліва вызначыўся старшына ўзвода спецыяльнага прызначэння Варэнскага памежнага атрада Г.Малінаускас, які ў жніўні затрымаў на Воранаўскім кірунку некалькі тонаў кантрабанднага спірту і цукру. Не ведаю, якім чынам работу старшыны адзначыла ягонае начальства, а вось кантрабандысты ацанілі яе вельмі высока: у верасні ў ягонай машыне ўзарвалася бомба. Старшына цудам застаўся жывы.

Рэха гэтага выбуху, відаць, дакацілася да Менска, таму што ў Варэнскі памежны атрад прыбыў камандуючы памежнымі вайскамі Беларусі генерал-лейтэнант А.Паўлоўскі. У горадзе-курорце Друзгеніках, ва ўтульных абставінах санаторыя «Летува» (былога ўрадавага) камандуючы падпісаў пратакол, якім абодва бакі дамовіліся «ўзмацніць і забяспечыць».

Заадно ў Літве беларускаму генералу давялося выслухаць нямала непрыемных намёкаў. Выяўляецца, 55 працэнтаў усіх парушэнняў дзяржаўнай мяжы Літвы здараецца з боку Беларусі! Ні палякі, ні латышы, ні расіяне так нахабна не пруць, як беларусы.

У гэтай сувязі свабодная прэса Літвы адкапала і абнародавала факт, што генерал-лейтэнант А.Паўлоўскі яшчэ пяць гадоў таму камандаваў не памежнымі вайскамі, а шэраговай армейскай шостай брыгадай на Фолюшы і меў званне палкоўніка. Кар'ера імклівая, зоркі на пагонах вялікія, а дзе вынік? У літоўцаў жа склалася трывалае ўражанне, што з боку Беларусі мяжа проста не ахоўваецца зусім!

Падзялюся яшчэ і асабістымі ўражаннямі. Калі пяць гадоў таму я ў Літву прывозіў дазваляемую законам бутэльку «Старога замка», усе налягалі і прасілі хоць глыток. Па тры даляры за пляшку давалі! Зараз жа літоўцы ад «Полькі», «Панскага дома», «Старога замка» насы адварочваюць і двух даляраў не даюць. Таму што беларускай гарэлкі (таксама, як і спірту, цыгарэтаў, цукру, дызельнага паліва ды іншага) у Літву столькі кантрабандай завозіцца арганізавана і цэнтралізавана, што выпадковаму гандляру знайсці нішу ў гэтым перапоўненым рынку ніякай надзеі няма.

Вось як ахоўваецца наша і ваша мяжа і нашыя з вашымі эканамічныя інтарэсы.

**Лявон Даўгяла**

*«Тым, што першыя паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» -*

# Героям Слуцкага Збройнага Чыну

Палякі тут, а тут - бальшавікі.
І горад Слуцк -
у паласе нейтральнай.
А па-над гэтай паласой лунае:
- Быць Беларусі вольнай на вякі!..

Ўздымаецца ў Слуцку збройны чын:
Сяляне, гараджане і вайскоўцы -
Рашучыя, абстрэленыя хлопцы
З дзесятка не пужлівага мужчын.

Гавораць: «Ні чырвоных, ні паноў
На карку не стрываюць беларусы...»
Гавораць:
«Чым сканаем пад прымусам,
Няхай пральецца лепей
наша кроў».

І ў бой ідуць яны за родны край,
За ўласныя дзядзінцы ды гасцінцы,
За тое, каб народ увесь чужынцы
Не зацягнулі ў пралетарскі рай.

Давайце ж мы
Дваццаты ўспомнім год,
Дзядоў сваіх
ды прадзедаў успомнім.
Не іх, а нас чырвоных д'яблаў коні
Стапталі і стаўклі
ў бязродны зброд.

Не іх, а нас перастраляў Гулаг...
Не з іх, а з нас для псоў
варылі студзень.
Ці ж уваскрэснем мы,
калі забудзем
Пра год Дваццаты,
пра герояў прах?

Калі ў глухім бяспамяцтве сябе
Задушым самі ўласнымі рукамі,
Дык хто, сакажыце,
выйдзе разам з намі
На ляда наша з думкай аб сяўбе?

**Алесь Макалайчанка**

# У гонар 80-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну

**27 кастрычніка ў сядзібе БНФ «Адраджэньне» адбылося паседжаньне Нацыянальнага арганізацыйнага камітэту сьвяткаваньня юбілею Слуцкага збройнага чыну 1920 году - гераічнай абароны незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі ад бальшавіцкіх акупантаў. Старшыня аргкамітэту - прафэсар Анатоль Грыцкевіч, з паходжаньня случак, аўтар дасьледаваньняў пра слуцкія падзеі 80-гадовай даўніны.**

**Аргкамітэт прымеркаваў да юбілейных дзён напрыканцы лістапада шэраг акцыяў у сталіцы. Пад эгідай часопісу «Спадчына» адбудуцца юбілейныя гістарычныя чытаньні. Гісторыкі Ўладзімер Ляхоўскі й Аляксандра Гесь запрэзэнтуюць прысьвечаную Слуцкаму збройнаму чыну дакумэнтальную кнігу, а таксама выставу аўтэнтычных тагачасных дакумантаў. «Архіў найноўшай гісторыі» рыхтуе прагляд фільма пра Слуцкае паўстаньне й тэматычны канцэрт бардаўскай песьні. Фальклёрнае шоу (гістарычны вайсковы фальклёр ды песьні паўстанцаў, запісаныя на Случчыне філёлягам Марынай Сідаровіч) пакажа гурт Ірыны Мазюк.**

**Як і штогод, адбудзецца масавы выезд у мясціны паўстаньня: Слуцак, Вызну, Грозаў, Семежава, Цімкавічы.**

**Ул. інф.**

# Амерыканцы развіваюць у Гродне Інтэрнэт

**14 лістапада ў памяшканні Гарадзенскага медуніверсітэта адбылося падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве паміж грамадскай арганізацыяй «Мадэм» і амерыканскім агенцтвам IREX.**

Яно прадугледжвае арганізацыйную і фінансавую падтрымку амерыканскім бокам «Адкрытага Інтэрнэт-Цэнтра», які пачаў працу ў кастрычніку мінулага года на базе медуніверсітэта высілкамі сябраў «Мадэма».

Старшыня моладзевай грамадскай арганізацыі «Мадэм» Валянціна Суворына расказала, што сябрам арганізацыі можа стаць любы малады чалавек, які зацікаўлены ў развіцці Інтэрнэт-кантактаў. Сяброўскія ўнёскі складаюць тры тысячы рублёў на месяц. Амерыканскі бок прапануе бясплатныя праграмы навучання ў галінах эканомікі, права, паліталогіі ды іншых.

Каардынатар праекта ад амерыканскага боку Мірон Гірняк на пытанне ПАГОНІ пра кошт дапамогі адказаў, што сэнс гэтай інвестыцыі не ў атрыманні прыбытку, а ў развіцці кантактаў паміж людзьмі на ўсіх частках свету. Ён жа паабяцаў, што ягоная ўстанова разгледзіць прапановы па арганізацыі навучання тых карыстальнікаў Інтэрнэту, якія хацелі б развіваць беларускамоўнае разгалінаванне «сеткі». З ягонага дазволу падаем каардынаты спадара Гірняка - http:\\www.iatp.net

**Сяргей Сноп**

# Акадэмік-забойца

**Днямі расейскае тэлебачаньне паказала сэнтымэнтальны сюжэт. Мажнага, губатага дзядзьку апранаюць у мантыю. Ён задаволена ўсьміхаецца ў атачэньні прафэсараў і паненак-асьпірантачак. Генэрал Казанцаў атрымлівае званьне акадэміка расейскай акадэміі сацыяльных і гуманітарных навук.**

Генэрал, выяўляецца, гуманітарый. Пра гэта не здагадвалася чачэнская інтэлігенцыя, стоячы над руінамі інстытутаў, бібліятэкаў і лабараторыяў. Пра інтэлектуальныя здольнасьці Казанцава не мелі ўяўленьня маці забітых расейскімі войскамі дзяцей, калекі ды сіраты. Акадэмік прывёў у маленькую каўказскую краіну дзікую арду і арганізаваў зачыстку некалькіх сотняў тысяч чалавек, надта не турбуючыся пра лёс таксама і ўласных падначаленых ды іхныя трупы. Або як ён сам заявіў адносна гэтага ў сваёй інаўгурацыйнай прамове: «Сучасныя праблемы трэба вырашаць навуковымі мэтадамі. У тым ліку і ў Чачэніі». Асьвенцымскі экспэрымэнтатар доктар Мэнгеле, барацьбіт супраць генэтыкі Лысенка - вось кампанія новага расейскага акадэміка.

Аляксандр Казанцаў (даволі папулярны пісьменьнік-фантаст) стварыў у адным са сваіх раманаў змрочны вобраз генэрала Кантэнта Сіруса, які пуляў па касьмічных станцыях ракетамі. А на міжгалактычным судзе выкручваўся, сьцвярджаючы, што трыбунал не мае юрыдычнай сілы, бо ў космасе няма законаў. Вядома, яшчэ класікі са школьных падручнікаў шчыра прызналіся, што «умом Россию не понять». І нават да Буша малодшага з Кангрэсам ЗША дайшло, што РФ ёсьць прастора, дзе пануе юрыдычны вакуум. Няма сумневу, на непазьбежным міжнародным трыбунале расейскія злачынцы будуць карыстацца тымі ж аргумантамі, што й іхны фантастычны прататып.

Гледзячы на акадэміка-піцекантрапа, які шчэрыўся на тэлеэкране, я міжволі прыгадаў студэнцкія гады, Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, акадэмічную прафэсуру. Прадстаўнікоў апошняй мы дзялілі на дзьве катэгорыі. Адныя - рабацягі ад навукі, некалькі з іх пабылі на Калыме за свае манаграфіі. Другія - халяўшчыкі, што нарабілі дысэртацыяў на ленініяне ды плагіяце, яны гатовыя былі і на Андрэя Рублёва настукаць за буржуазны фармалізм. Цяпер у Расеі мацнее трэцяя катэгорыя: акадэмікі-кілеры, акадэмікі-гэбісты (Пуцін etc.). І падобна на тое, што апошнія паступова становяцца гонарам расейскай акадэмічнай навукі. Куды ж падзеліся першыя, чаму не чуваць галасоў пратэсту сапраўдных інтэлектуалаў супраць бруднай вайны ды маразму ў навуцы? Мы паверылі б у часовае іх зьняменьне, каб не рэгулярнае апяваньне хорам ды паасобку вабнотаў паглынаньня нашай Беларусі іхнай Расеяй. На сцэне зьяўляюцца то паэт, то гісторык, то група таварышаў па ленінскіх прэміях, то дысідэнты-салжаніцыны. І ўсё працягваецца кашмарны кабарэцік, дзе перамяшаліся выканаўцы, зьліліся галасы... Яны ўсе свае, аднолькавыя, гэта адна кодла. Расейская папса...

**В.Буйвал**

# Ларыса Геніюш вярнулася. Без цэнзуры

**У чацьвер літаратар Міхась Скобла прэзентаваў гарадзенцам кнігу «Ларыса Геніюш». Імпрэза, зарганізаваная культурна-асьветніцкім клюбам «Паходня», адбывалася ў Гарадскім доме культуры.**

Кніга пра славутую паэтку - трыццатая па ліку ў серыі «Беларускі кнігазбор». Яе наклад у 4000 паасобнікаў разышоўся амаль за два з паловай месяцы. Аднак ніводная кніга не патрапіла ў школьныя бібліятэкі - не дазволілі набыць, бо Геніюш па-ранейшаму выкрэсьленая са школьных праграмаў.

Паводле словаў укладальніка кнігі, Міхася Скоблы, гэта першае «бясцэнзурнае» выданне Ларысы Геніюш на Беларусі. Усе папярэднія траплялі ў выдавецтвы пасля рэдагавання ў ЦК КПБ бяз словаў «Бог», «Пагоня», «крывіцкі». Савецкая цэнзура бязьлітасна крэсьліла радкі, затушоўвала цэлыя строфы. У новай кнізе творы надрукаваныя збольшага з аўтографаў і аўтарскіх машынапісаў паэткі. 22 вершы ўбачылі сьвет упершыню. Першы раз друкуецца і збор лістоў Ларысы Антонаўны - фактычна дзесяткамі яна адпраўляла іх штодзень у розныя краіны сьвету.

- Шмат людзей спрыялі выхаду кнігі, дапамагалі хто здымкам, хто рукапісам, - распавядаў Скобла, - толькі КГБ не даў дазволу азнаёміцца з крымінальнай справай Геніюш. Але цікавае адкрыццё дапамог зрабіць адзін палкоўнік, праўда ўжо чатыры гады як памерлы. Відаць, пры жыцьці быў кнігалюбам - у хаце сабраў багатую бібліятэку забароненых выданьняў, кніг апальных паэтаў і пісьменьнікаў. У адным з каталогаў Міхась Скобла й знайшоў картку №1071 з надпісам: «Л.Гениюш. Из неопубликованного. Цена 1 р.». Магчыма, гэта дагэтуль невядомая кніга Геніюш, якую цэнзура пусьціла «пад нож».

Сёньня яшчэ жывуць нашчадкі тых нелюдзяў, што ўвесь час перасьледавалі паэтку. Яны выкрэсьліваюць яе вершы з падручнікаў, хаваюць яе лёс у сакрэтных архівах, нават не даюць палюдску ўшанаваць яе памяць. Лукашэнка неяк сказаў, што «я уже разобрался с трудной судьбой Ларисы Гениюш и с белорусской интеллигенцией». Разабраўся так, што на Беларусі няма ніводнага помніка Ларысе Антонаўне. Дакладней ёсьць, але ён пыліцца ў Саюзе пісьменьнікаў, бо зэльвенскія ўлады не дазволілі яго ўсталяваць. А вуліца ў Зэльве, дзе жыла Геніюш, называецца савецкай. Было сабрана каля сотні подпісаў за перанайменьне яе ў гонар Ларысы Антонаўны. Але й тут мясцовыя ўлады несупынна чыняць перашкоды - ў выканкаме стварылі адмысловую камісію, якая зараз ходзіць па хатах і дапытвае жыхароў вуліцы Савецкай: «А ці сапраўды вы хочаце перайменаваць вуліцу? А чаму?»

Недзе тыдзень таму Міхасю Скобле патэлефанавалі з аднаго дзяржаўнага выдавецтва і паведамілі, што «была каманда выдаць Геніюш». Толькі кніга выйдзе з праўкамі савецкіх часоў, бяз тых самых «крамольных» словаў, радкоў і строфаў...

**Юлія Дарашкевіч**

**Аляксей Пяткевіч, прафесар Гарадзенскага ўніверсытэту імя Я.Купалы:**

- Лёс беларускай інтэлігенцыі заўсёды быў трагічным. Зараз мне ўзгадваюцца апошнія дні яе жыцця. Яна цяжка хварэла, ляжала ў анкалогіі гарадзенскага абласнога шпіталя. Ёй зрабілі аперацыю, і яна нібыта стала папраўляцца. Вярнулася ў Зэльву, але за ёй зусім нечакана прыехалі ўначы і павезлі на паўторную аперацыю. Незразумела, каму і навошта гэта было патрэбна. Праз тры дні яна памерла.

**Валянцін Дубатоўка, прадпрымальнік, які дапамог выдаць кнігу «Ларыса Геніюш», факсымільны зборнік «Ад родных ніў», а таксама ўсталяваць мемарыяльную шыльду паэткі ў зэльвенскай царкве:**

- Гэта першы выпадак на Беларусі, калі ў царкве была ўсталявана мемарыяльная шыльда паэтцы. Гэта не выпадкова. У Зэльве Ларыса Геніюш працавала санітаркай у шпіталі. Замежныя сябры даслалі ёй чырвоны аксаміт на сукенку, а яна абгарнула ў яго Евангельле. Як рэліквія яно захоўваецца ў зэльвенскай царкве дагэтуль.

**Юрка Голуб, паэт:**

- Калі Ларыса Антонаўна памерла, на Беларусі зьявіўся толькі адзін некралёг, здаецца ў ЛіМе. Яго падпісалі сем чалавек - Максім Танк, Уладзімер Караткевіч, Адам Мальдзіс, Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Пяткевіч, Вольга Іпатава, а маё імя стаяла з прыпіскай: «Юрка Голуб, сын памерлай». Яна сапраўды ставілася да мяне вельмі пяшчотна, як да сына, называла ў лістах «галубочкам».

**Ала Петрушкевіч, выкладчыца ГрДзУ:**

- Я ніводнага разу, пакуль вучылася, на сваім родным філфаку не пачула яе імя. Але зараз я хачу распавесьці пра іншае. Яна вельмі любіла кветкі. Дзе была яна - кветкі былі ўсюды. Нават у ГУЛАГу, на яе дзень народзінаў, зьняволеныя вышуквалі для яе кветкі. Няма іх толькі на яе магіле - надта ўжо пясчаная зямелька.

### Ліст да сяброў Беларускага Вызвольнага Руху

# Справы ў Беларусі можна паправіць. Усё залежыць ад саміх беларусаў

Дарагія беларусы! Надыходзіць час, калі трэба адкрыта сказаць пра справы, якія могуць уплываць на нашу народную будучыню.

Рэжым пахіснуўся. Пра гэта сьведчыць правал выбараў у «палату». Людзі не пайшлі галасаваць. Тое, што потым Лукашэнка сфальсіфікаваў гэтыя выбары, сьведчыць толькі, што рэжым яшчэ існуе, але ня кажа пра ягоную моц, бо грамадзтва ўжо адвярнулася ад яго.

Цяпер Масква, баючыся страціць сваю ўладу ў Беларусі, задумваецца, што рабіць: альбо ізноў падтрымаць Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах, альбо замяніць яго на іншага свайго стаўленіка пад маскай апазыцыянэра і дэмакрата і пад бачнасьцю змаганьня з дыктатурай.

У гэтай палітыцы Маскву найбольш падтрымліваюць немцы, якія апанавалі міжнародныя арганізацыі, і асабліва - АБСЭ. Нямецкая палітыка на Беларусі - гэта, перш за ўсё, інтэрас газавай трубы з Расеі. Для абодвух інтэрасантаў лепей, каб Беларусі не было, і ня мець клопатаў. Нямецкая дыпляматыя стараецца пераканаць міжнародную супольнасьць, што рэжым Лукашэнкі быццам бы «дэмакратызуецца», што зь ім трэба супрацоўнічаць. З гэтай мэтаю, пры дапамозе нямецкага дыплямата Ханса-Гэорга Віка, быў створаны ў Менску палітычны канглямэрат пад назвай «аб'яднаная апазыцыя» й прыдуманы так званы «перамоўны працэс», задача якога - уцягнуць апазыцыйныя палітычныя партыі ў незаконныя выбары і адцясьніць Беларускі Вызвольны Рух на пэрыферыю палітыкі. Часткова гэта ўдалося, і ўсё было падрыхтавана, каб незаконныя выбары прызнаць. Але тут сказалі сваё слова беларускія выбаршчыкі, якія не прыйшлі галасаваць, і ўся нямецка-маскоўская задумка праваліласяе.

Напрыканцы верасьня гэтага году, падчас Югаслаўскага крызісу, канцлер Нямеччыны Герхард Шродар тэрмінова паляцеў у Маскву і чатыры гадзіны размаўляў з прэзыдэнтам Пуціным. Размова, як выявілася, ішла пра новую газавую трубу і пазыцыю Расеі ў югаслаўскіх падзеях. Узамен за згоду Расеі на замену Мілошавіча і за гарантыі павелічэньня паставак газу з Расеі ў Нямеччыну было паабяцана дапамагчы здаць Беларусь.

У гэты ж час зь Менску ў Беласток на малазначную міжнародную канфэрэнцыю прыяжджае Ханс-Гэорг Вік і нечакана заяўляе, што нямецкая дыпляматыя ўжо шмат гадоў спрыяе ўваходжаньню Беларусі ў Расею і спадзяецца пры гэтым, што стабільнасьць у пастаўках расейскага газу ня будзе парушана.

Нагадаю, што Ханс-Гэорг Вік фармальна зьяўляецца кіраўніком Місіі АБСЭ ў Менску - арганізацыі, якая дакляруе на словах іншую палітыку. Заява спадара Віка ў Беластоку не была ляпсусам дасьведчанага прафэсійнага дыплямата і разьведчыка. Адразу пасьля размовы канцлера Шродара ў Маскве трэба было засьведчыць Пуціну, як добра немцы дбаюць пра рускія інтарэсы ў Беларусі. І спадар Вік тут жа выканаў гэтую задачу. (Ёсьць яшчэ і пруская тэма ў гэтых нямецка-расейскіх дзеяньнях, але тут мы пра яе не гаворым).

Спадара Віка ды іншых спэцыялістаў паразмаўляць наконт правоў чалавека не цікавіць, што ў акупаванай Беларусі адбываецца этнацыд беларусаў, што пазачынялі беларускія школы, што ў Беларусі людзей звальняюць з працы па палітычнай прыкмеце, а міліцыя зьбівае за размову па-беларуску.

- Калі вы хочаце размаўляць па-беларуску, то вадзіце з сабою перакладчыка, - высакамерна кажа беларускім палітыкам гэты кіраўнік Місіі АБСЭ.

Мы, беларусы, ведаем сваю гісторыю, і расейска-нямецкая палітыка супраць Беларусі нас не зьдзіўляе. Мы мусім заявіць, аднак, што антыбеларуская дзейнасьць спадара Віка больш ня ўдасца. Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» лічыць Ханса-Гэорга Віка пэрсонай нон-грата і запатрабаваў ад АБСЭ адкліканьня яго з нашай краіны.

* * *

Афіцыйная Масква нічым не выяўляе свайго імкненьня зьмяніць Лукашэнку. Рускія шавіністы неаднаразова падкрэсьлівалі, што лепшай марыянэткі, чым Лукашэнка, Расея ня мае й мець ня будзе. Але афіцыйнай Расеі нельга верыць. Думку аб зьмене Лукашэнкі падтрымліваюць шавіністы апазыцыйнага кшталту, тыпу Нямцова ды Яўлінскага, Гайдара ды іншых. Праз іх адпрацоўваецца запасны варыянт з «антылукашэнкам», і галоўнае - уцягваюцца беларускія палітычныя партыі ў прэзыдэнцкія выбары па сцэнару, указах і правілах рэжыму Лукашэнкі. Гэта стварае гарантаваную перамогу Лукашэнку на выбарах і захаваньне рэжыму.

Маскоўская палітыка тут бяспройгрышная пры любым павароце сітуацыі. У ролі выканаўцаў і падстаўных фігураў выкарыстоўваюць (гэтак жа, як і немец Х.-Г.Вік) так званую «аб'яднаную апазыцыю», якая і падабраная дзеля такога роду справаў.

Лукашэнка разумее, што прэзыдэнцкія выбары для яго - гэта ўжо не пытаньне ўлады, а пытаньне лёсу. У такіх выпадках дыктатары ідуць на ўсё. Ніякіх законаў рэжым прытрымлівацца ня будзе. Яму патрэбная ўлада, а не прызнаньне Захаду. Лукашэнку трэба арганізаваць свае выбары па сваіх законах.

Гэтую справу якраз адразу падхапіла «аб'яднаная апазыцыя» ды пачала заяўляць, што шукае свайго Каштуніцу. Маскве пасьля такой заявы застаецца толькі дзейнічаць і маўчаць.

Не хаваючыся, цяперашнія апазыцыянэры і былыя сябры Лукашэнкі, як заўсёды, едуць у Маскву па ўказаньні да сваіх спонсараў ды ворагаў Беларушчыны. Некалькі асобаў ствараюць мітусьню ды бачнасьць падзеяў і цудоўна разумеюць, што ўключыліся ў сцэнар Лукашэнкі й маскоўскія пляны захаваньня акупацыйнага рэжыму на Беларусі.

Людзі, якія выступаюць пад шапкай «аб'яднанай апазыцыі», стаяць у баку ад расейска-беларускага канфлікту і дэкларуюць толькі змаганьне за ўладу з рэжымам Лукашэнкі. У 1994-м годзе, будучы ў ягонай камандзе, яны ўжо паспрыялі яму, як маглі.

Мы памятаем гэтую публіку. Такое ў палітыцы не забываецца. Гэта Д.Булахаў, А.Лябедзька, В.Ганчар, М.Чыгір, Л.Сініцын, А.Фядута ды іншыя, прымкнулыя.

Мы памятаем, як асабліва набліжаны да Лукашэнкі Лябедзька аж падскокваў у Вярхоўным Савеце, каб зьняць забарону з ЛКСМБ (дзейнасьць камсамолу была прыпыненая разам зь дзейнасьцю КПСС у 1991 годзе). Пры дапамозе камуністаў гэта ўдалося зрабіць, каб забраць грошы ЛКСМБ, куды трэба. На гэтым інтэрас да камсамолу зьнік.

Мы памятаем, як было ўзьнятае пытаньне адносна карупцыі ў адміністрацыі й ва ўрадзе Лукашэнкі, як выплыла афёра зь мільёнамі Чыгіра і Ціцянкова (даклад у Вярхоўным Савеце ад Апазыцыі БНФ рабіў С.Антончык), як праз банк, якім кіраваў Чыгір, накручваліся брудныя грошы на фінансаваньне прэзыдэнцкай кампаніі Лукашэнкі й шмат што іншае. Цяпер, апынуўшыся за бортам улады і назваўшыся «аб'яднанымі апазыцыянэрамі», гэтыя людзі хочуць зноў на карку беларусаў патрапіць у тую ж ваду (дакладней - у тую ж лодку).

А між тым тады, у 1994 годзе, быў выбар. Але ніхто зь іх ня стаў падтрымліваць на прэзыдэнцкіх выбарах Народны Фронт і кандыдата ад БНФ. З імпэтам маладых ваўкоў (гэтак іх потым назвалі) яны ўключыліся ў здраду Беларусі, у маскоўскі сцэнар. Вынік вядомы. Высновы з «выніку» - прымітыўныя. Бо ў гэтых асобаў Беларусь ніколі не стаяла на першым месцы.

У 1997 годзе ўдалося часткова прыпыніць агрэсіўную «інтэграцыю» з Расеяй. Летам, на V-м Зьезьдзе, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» аб'явіў пра неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх апазыцыйных рэжыму адраджэнцкіх сілаў у Вызвольны Рух на барацьбу за абарону незалежнасьці й супраць імпэрскай палітыкі Расеі. Рускія зразумелі небясьпеку. На барацьбу з гэтай ідэяй і з Беларускім Народным Фронтам былі кінутыя ўсе скрытыя і адкрытыя сілы. У гэтым жа годзе як прафанацыя аб'яднаўчай ідэі ствараецца агентурны фантом - Хартыя-97, праз які пайшлі сродкі на развал Беларускага Народнага Фронту, на подкуп і разбэшчваньне беларускіх палітычных структураў, на стварэньне новай, паралельнай з БНФ, агульнадэмакратычнай апазыцыі без беларускай ідэі й без адраджэнцкай палітыкі. Рускім дапамагаюць у гэтым заходнія лібэралы. У 1998 годзе ў Менск прыяжджае Ханс-Гэорг Вік, спрыяе стварэньню «аб'яднанай дэмапазыцыі» й заганяе яе ў «перамоўны працэс».

У 1999 годзе зьяўляецца злавесны «праект - Чыгір» (выбары прэзыдэнта), які цалкам прафінансавала Масква. Зь велізарнымі цяжкасьцямі й стратамі ўдалося яго абваліць. (Іначай бы ад Беларускага адраджэньня мала што засталося). Тым ня менш з Народнага Фронту выйшла група людзей, якая пакінула за сабою абрэвіятуру БНФ і далучылася да «аб'яднанай апазыцыі» (Ю.Хадыка, А.Бяляцкі, В.Вячорка, Л.Баршчэўскі ды іншыя).

Улетку 2000 году «аб'яднаная апазыцыя» ўсімі сіламі імкнулася сарваць і перашкодзіць правядзеньню Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць. Але нічога не атрымалася. Усебеларускі Зьезд за Незалежнасьць - вялікая падзея беларускай сучаснасьці - адбыўся.

Спатрэбіўся цэлы год, каб усе ўбачылі, што так званая «аб'яднаная апазыцыя», падтрыманая чужымі грашыма, гэта, як і «хартыя», - ніякая не палітычная сіла, а пустата, бурбалка ў лужыне, за якой няма ні структураў, ні арганізаваных людзей, ні здаровых ідэяў, ні хаця б на нешта здольных палітыкаў, апрача балбатуноў ды спажывальнікаў грашовых грантаў, якія любой цаною прагнуць трапіць ва ўладу (у тую, дарэчы, лукашэнкаўскую, пра якую кажуць, што яе ня любяць).

Вазьміце, вазьміце мяне ў прэм'еры, - ужо даўно просіць Лукашэнку «апазыцыянэр» С.Багданкевіч. Пачаліся выбары, і «аб'яднаныя апазыцыянэры», што выступалі супраць выбараў ды напрымалі розных «заяваў», нарабілі «кангрэсаў», пайшлі на выбары касяком. Тут і камуністы, і Статкевіч, і Фядута, і Сініцын, і Чыгір ды іншыя - знаёмыя ўсе твары. І трэба ж такі (акрамя Булахава, які правільна сябе паводзіў) - нікога не ўзялі. Яны ў каторы раз прадаюцца (і ня дорага просяць), а іх не купляюць. Непатрэбныя яны больш Рыгоравічу. Гэтыя людзі неабходныя замоўцам не ва ўладзе, а якраз - у «аб'яднанай апазыцыі», якую ім прыдумалі. Там іхнае поле разбуральнай дзейнасьці, а не ў кіраўніцтве дзяржавай.



Зянон Пазьняк

* * *

Я ведаю гэтых асобаў. І тых, хто былі ў Вярхоўным Савеце, і тых нямногіх, што былі ў Народным Фронце і выяжджалі на маіх плячах, дбаючы пра свае інтарэсы. Яны здаўна тоўпяцца ў палітыцы. Але я глыбока перакананы ў адным: гэтых людзей нельга дапускаць да беларускай улады. Яны не сасьпелі, не дарасьлі да гэтакага ўзроўню ні з маральнага, ні з палітычнага боку. Ня могуць і не павінны кіраваць людзі, схільныя да здрады нацыі, да карупцыі, здольныя прадавацца за сто даляраў ды служыць спонсару (нямецкаму, расейскаму ці іншаму - усё роўна). Беларусы не павінны за такіх галасаваць. Нельга такім давяраць.

Мне няпроста пра гэта пісаць землякам, бо я адчуваю, што зноў ня ўспрымуць тое, што я кажу цяпер, але праз два-тры гады - без сумневу. Чаму ў нас, беларусаў, запозьненая рэакцыя, чаму мы часта ня хочам заранёў бачыць відавочных зьяваў, пакуль нас нашымі ж рукамі не ўвапхнулі ў мяшок? Мы мусім старацца гэта зьмяніць і паправіць нашае беларускае жыцьцё, каб намі не кіравалі дрэнныя людзі й чужынцы.

* * *

Сітуацыя, якая ўзьнікла пасьля правалу Лукашэнкі на выбарах 15 кастрычніка і потым, пасьля фальсыфікацыі галасаваньня, вымагае выразнага і канкрэтнага дзеяньня.

Лукашэнка павінен адыйсьці. Ён мусіць пакінуць уладу і адмовіцца ад пасады, якую захапіў і трымае незаконна. ЛУКАШЭНКА, ЗЫХОДЗЬ! - вось патрабаваньне, якое трэба выставіць узурпатару, што страціў падтрымку ў грамадзтве. Такое патрабаваньне лягічнае, маральнае, палітычна абгрунтаванае й правільнае. Гэтае патрабаваньне ёсьць дзеяньне й палітычны працэс. Яно павінна паўтарацца з дня на дзень, на вуліцы, у друку, ва ўстановах, на заводах і гаспадарках, у эфіры і ў паветры. Ня трэба слухаць таго, хто будзе казаць: «Дык ён жа ня зыйдзе». Трэба дэманстраваць волю, салідарнасьць і народную сілу.

Наступнае патрабаваньне, якое адчыняе мэханізм зыходу: Законныя выбары - законная ўлада. Гэта значыць, што законныя выбары Прэзыдэнта і Вярхоўнага Савета павінны аб'явіць і правесьці законныя органы ўлады: Вярхоўны Савет, Выканаўца функцыяў Прэзыдэнта Беларусі Сымон Шарэцкі й Цэнтральная Выбарчая Камісія (а не група асобаў на чале са спадарыняй Ярмошынай).

Трэба ўлічыць, што Генэральным Пракурорам Беларусі Рыгорам Пракаповічам распачата крымінальная справа супраць Лукашэнкі па факце незаконнага захопу ўлады. На маю думку, пры ўмове дабраахвотнага зыходу, для Лукашэнкі адразу трэба будзе прапанаваць гарантыі бясьпекі й стварыць гарантыі іх датрыманьня.

Для рэальнага правядзеньня й каардынацыі гэтай палітыкі мусіць быць створаны Ўрад Народнага Даверу, з ініцыятывай якога выступіў нядаўна Сямён Шарэцкі.

Цяжкасьць у тым, што многія дэпутаты Вярхоўнага Савета загразьлі ў «аб'яднанай апазыцыі», у дачыненьнях з Масквой ды з Х.-Г.Вікам. Яны кажуць, што нічога ня трэба рабіць, і стараюцца выставіць С.Шарэцкага як чалавека, які нічога не разумее. Тым часам якраз С.Шарэцкі разумее болей за іх, бо, апынуўшыся за межамі рэжыму, добра ўбачыў і разабраўся ў хітрасьцях маскоўскай палітыкі на Беларусі.

Нельга дапусьціць, каб Лукашэнка правёў свае прэзыдэнцкія выбары паводле свайго сцэнару і па сваіх распараджальных (і нелегальных) актах. І тым самым захаваў бы сваю ўладу.

Па-другое, нельга дапусьціць, каб нямецка-расейскі дыпляматычны альянс зьдзейсьніў на Беларусі югаслаўскую мадэль зьмены Лукашэнкі на іншую асобу, падпарадкаваную Маскве й паставіў на прэзыдэнта Беларусі новую маскоўскую крэатуру (з іміджам апазыцыянэраў).

Гэты варыянт горшы за варыянт з Лукашэнкам, бо здольны яшчэ хутчэй прывесьці да страты Беларускай незалежнасьці й ліквідацыі Беларускай дзяржавы. (Апроч таго ён дэзарыентуе грамадзтва). Калі да гэтага давядуць, то мірны пэрыяд разьвіцьця падзеяў на Беларусі можа скончыцца.

У сітуацыі, якая складваецца, і асабліва ўлічваючы здрадніцкую прамаскоўскую дзейнасьць асобаў так званай «аб'яднанай апазыцыі». Беларускі Вызвольны Рух павінен будзе прыняць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах і вылучыць кандыдата.

Мы добра ўсьведамляем, што рэальнай апазыцыйнай сілай, якая змагаецца супраць акупацыйнай палітыкі й дыктатарскага рэжыму (што гэтую палітыку праводзіць) зьяўляецца не «аб'яднаная апазыцыя», а Беларускі Вызвольны Рух, дзе галоўнымі арганізацыямі ёсьць Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» й Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя - БНФ. Беларускі Вызвольны Рух выяўляе прычыны дыктатуры і змагаецца зь ёю як з прарасейскім акупацыйным рэжымам, у якім вызначальную ролю адыгрывае не Лукашэнка (ён - марыянэтка), а Масква.

Палітычны канфлікт у Беларусі ня ёсьць унутраны канфлікт. Ён зыходзіць са зьнешніх прычынаў. Гэта вынік вялікадзяржаўнай палітыкі Расеі, яе прэтэнзіяў на Беларусь і Ўсходнюю Эўропу. Беларусь - не Югаславія. Тут размова ідзе пра незалежнасьць, сувэрэнітэт, існаваньне Беларускай дзяржавы і будучыню Беларускай нацыі. Тут ідзе барацьба паміж сіламі беларускай незалежнасьці, беларусамі й рускай вялікадзяржаўнай палітыкай.

На Беларусі адбылася ўнутраная акупацыя беларускіх дзяржаўных органаў улады, ажыцьцёўленая расейскімі спэцслужбамі праз іхнага стаўленіка Лукашэнку. Урад ня ёсьць беларускім. (У ім няма беларусаў). Ключавыя пасады ў сістэме ўлады занятыя (і займаюцца) расейскімі палкоўнікамі, генэраламі й функцыянэрамі КГБ-ФСБ.

Дыктатура і акупацыйная ўлада на Беларусі зьдзяйсьняюць этнацыд беларусаў, зачыняюць беларускія школы, вынішчаюць беларускую мову, праводзяць мэтанакіраваную палітыку зьбядненьня народу.

Прэзыдэнт Беларускага народу, прапанаваны Беларускім Вызвольным Рухам, ліквідуе гэтую антыбеларускую палітыку і антынародную дзейнасьць, забясьпечыць волю, працу і будучыню беларускім людзям і ўсёй Беларускай нацыі на сваёй зямлі.

Беларускі Вызвольны Рух разглядае рэжым Лукашэнкі й яго «аб'яднаную апазыцыю» як зьявы аднае прыроды, якія йдуць у рэчышчы агульнай нямецка-расейскай палітыкі на Беларусі. Беларускі Вызвольны Рух змагаецца супраць гэтай палітыкі.

Мы усьведамляем сілу Беларускай Ідэі й ведаем пра вялікія магчымасьці Беларускага Вызвольнага Руху. Гэтыя мажлівасьці могуць быць найлепш рэалізаваныя, калі беларусы будуць салідарнымі й самі дапамогуць сабе.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» й Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ**
**12 лістапада 2000 году**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Чалавекам стагоддзя лічу Яўхіма Карскага




**Чалавекам стагоддзя Гарадзеншчыны я адназначна лічу Яўхіма Карскага. Ён стварыў фундаментальную працу - трохтомную энцыклапедыю з простай і зразумелай назвай «Беларусы». Карскі упершыню ў гісторыі абараніў дысертацыю па беларускай мове. Быў акадэмікам яшчэ за царскім часам, рэктарам Варшаўскага універсітэта.**

Канешне, сёння на слыху могуць быць іншыя імёны - спевака, спартоўца, пераможцы конкурса прыгажосці. Безумоўна, прыкладам беларускасці назаўжды застанецца Ларыса Геніюш. Можна назваць яшчэ і эмігранта акадэміка Барыса Кіта. Застануцца ў гісторыі і той жа Мячыслаў Грыб, пры якім была прынятая ўласна беларуская канстытуцыя. Сямён Шарэцкі, які ўзняў дэмакратычны бунт, стаў кіраўніком беларускай улады ў эміграцыі. Зянон Пазьняк - таксама адметная асоба.

Сусветную вядомасць у 2000 годзе набыла Яніна Карольчык - пераможца Алімпіяды ў Сіднэі, самая прыгожая сярод спарцменак. Што да Карскага, дык хто сёння пра яго памятае? Але пры сапраўдным, грунтоўным падыходзе менавіта ягоная роля і уклад ў беларускую культуру бачацца мне вельмі важкімі і вызначальнымі для нас, беларусаў.

**Сяргей Астраўцоў**

# Сяргей Давыдаў - лепшы футбаліст Гарадзеншчыны

**Пяты раз у найноўшай гісторыі пад эгідай ПАГОНІ прайшло апытаньне на прадмет выяўленьня мацнейшага футбаліста Гарадзенскай вобласьці па выніках сезону. У выніку нашага плебісцыту тытулам лепшага ўганараваны расейскі легіянер гарадзенскага «Нёману-Белкарду» Сяргей Давыдаў. Посьпех Давыдава прадвызначылі перш за ўсё яго снайперскія дасягненьні.**

Узгадаем, што ўпершыню аналягічны рэферэндум прайшоў у 1995 годзе. У тройку мацнейшых тады ўвайшлі: 1. Сяргей Саладоўнікаў («Кардан Флаерс»), 2. Сяргей Гурэнка («Нёман»), 3. Вітольд Хахлач («Абутнік»). У 1996 годзе, на жаль, апытаньне не праводзілася. 1997 год прынёс наступныя вынікі: 1. Сяргей Цыбуль («Нёман»), 2. Георгій Татарашвілі («Камунальнік»), 3. Генадзь Мардас («Нёман»). У 1998 годзе былі адзначаны: 1. Звіяд Бурдзенідзэ (СК «Ліда»), 2. Дзьмітрый Барысейка, 3. Сяргей Цыбуль (абодва «Нёман»). Мінулы сезон намінантамі сталі: 1. Юрый Мазурчык («Нёман-Белкард»), 2. Георгій Татарашвілі («Камунальнік»), Сяргей Палякоў («Нёман-Белкард»).

Сёлета ў апытаньні ўзялі ўдзел 14 прадстаўнікоў масмедыя і 15 спэцыялістаў. У выніку першым стаў форвард **Сяргей Давыдаў**. Усяго ён набраў **45 балаў** (11 першых, 4 другіх і 4 трэціх месцы). Са значным адставаньнем другім і трэцім разьмясціліся абаронцы «Нёмана-Белкарда» **Артур Крыванос - 24 ачкі** (3, 6, 3) і **Дзьмітрый Раўнейка - 21 пункт** (5, 2, 2). Усяго ж у адказах рэспандэнтаў згадваліся прозьвішчы аж но 19-ці гульцоў з чатырох клубаў вышэйшай і першай лігаў. Упершыню ўвесь п'едэстал занялі прадстаўнікі адной каманды - гарадзенскія нёманцы. Лепшы зь іншых клубаў - абаронец лідчукоў - Вітольд Хахлач. Вось поўны сьпіс намінантаў пасьля лаўрэацкага трыо: Сяргей Мірошкін - 18 ачкоў, Алег Кірэня - 13, Сяргей Палякоў (усе - «Нёман-Белкард») і Вітольд Хахлач («Ліда») - па 9, Аляксандар Суліма («Нёман-Белкард») - 8, Уладзімір Кухлей («Нёман», Масты) - 7, Віталь Тарашчык («Нёман-Белкард») - 3, Аляксей Дзенісеня, Віктар Юйко (абодва - «Нёман-Белкард»), Аляксандр Лянцэвіч («Ліда»), Мікалай Дым, Дзьмітрый Скатарэнка, Андрэй Ясковіч (усе «Камунальнік») - па 2, Арцём Крыкараў («Нёман-Белкард»), Мікалай Камкоў («Камунальнік»), Андрэй Ашыхмін («Нёман» М) - па 1.

## Хто за каго

### Журналісты

**Васіль Афанасік** (Слонім): 1. Давыдаў; 2. Палякоў; 3. Камкоў

**Аляксандар Дварэцкаў** (Гродна): 1. Крыванос; 2. Давыдаў; 3. Мірошкін

**Міхась Дубравін** (Гродна): 1. Давыдаў; 2. Дзенісеня; 3. Суліма

**Сяргей Ёрш** (Слонім): 1. Давыдаў; 2. Кірэня; 3. Кухлей

**Уладзімір Козыраў** (Гродна): 1. Давыдаў; 2. Крыванос; Раўнейка

**Руслан Корнеў** (Слонім): 1. Давыдаў; 2. Крыванос; 3. Кухлей

**Яўген Лосеў** (Гродна): 1. Раўнейка; 2. Юйко; 3. Давыдаў

**Іосіф Папко** (Гродна): 1. Давыдаў; 2. Крыванос; 3. Раўнейка

**Андрэй Пейц** (Гродна): 1. Давыдаў; 2. Тарашчык; 3. Крыванос

**Віктар Руднік** (Гродна): 1. Крыванос; 2. Давыдаў; 3. Кірэня

**Леанід Сасянкоў** (Ліда): 1. Раўнейка; 2. Хахлач; 3. Давыдаў

**Алег Смалякоў** (Гродна): 1. Давыдаў; 2. Крыванос; 3. Суліма

**Уладзімір Хільмановіч** (Гродна): 1. Раўнейка; 2. Давыдаў; 3. Крыванос

**Дзьмітрый Ягораў** (Гродна): 1. Суліма; 2. Палякоў; 3. Крыкараў

### Трэнеры-спэцыялісты

**Генадзь Бабошкін** («Камунальнік», Слонім, прэзідэнт клуба): 1. Палякоў; 2. Кірэня; 3. Давыдаў

**Валерый Бурнос** («Ліда», трэнер): 1. Мірошкін; 2. Раўнейка 3. Суліма

**Аляксандар Вярбіцкі** («Нёман», Масты, адміністратар клуба): 1. Мірошкін; 2. Лянцэвіч; 3. Кухлей

**Юрый Данілевіч** («Камунальнік», Слонім, трэнер): 1. Давыдаў; 2. Скатарэнка; 3. Кухлей

**Казімір Знайдзінскі** (рэферы ФІФА): 1. Давыдаў; 2. Палякоў; 3. Хахлач

**Аляксандар Кадоўбік** («Камунальнік», Слонім, адміністратар клуба): 1. Давыдаў; 2. Крыванос; 3. Ясковіч

**Сяргей Кароза** («Нёман-Белкард», Гродна, старшыня клуба): 1. Мірошкін; 2. Кірэня; 3. Давыдаў

**Уладзімір Кураш** (старшыня Гарадзенскай гарадзкой федэрацыі футболу): 1. Раўнейка; 2. Ашыхмін; 3. Кухлей

**Франц Ляцяга** (арбітр нацыянальнай катэгорыі, прэзідэнт абласной федэрацыі футболу): 1. Раўнейка; 2. Крыванос; 3. Кухлей

**Юрый Мазурчык** («Нёман-Белкард», Гродна, трэнер): 1. Мірошкін; 2. Давыдаў; 3. Кірэня

**Іван Прохараў** («Ліда», прэзыдэнт клуба): 1. Хахлач; 2. Кірэня; 3. Ясковіч

**Андрэй Пятроў** («Ліда», галоўны трэнер клуба): 1. Хахлач; 2. Раўнейка; 3. Тарашчык

**Сяргей Саладоўнікаў** («Нёман-Белкард», галоўны трэнер клуба): 1. Кірэня; 2. Мірошкін; 3. Крыванос

**Вячаслаў Сівакоў** (заслужаны трэнер Беларусі): 1. Мірошкін; 2. Суліма; 3. Давыдаў

**Аляксей Шубянок** («Камунальнік», Слонім, галоўны трэнер клуба): 1. Крыванос; 2. Дым; 3. Кухлей

Цікава, што погляды журналістаў і людзей, непасрэдна з футбольнага «цэху» гэтым разам істотна разышліся. Тройка лепшых, на агульную думку майстроў пяра й вострага слова выглядае так: 1. Давыдаў - 32, 2. Крыванос - 16, Раўнейка - 11. Погляды спэцыялістаў, больш стракатыя, і, хіба, больш суб'ектыўныя, склаліся ў наступную карціну: 1. Мірошкін (вось хто, сапраўды, быў варты трапіць у тройку) - 17, Давыдаў - 13, Кірэня й Раўнейка - па 10.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

1.Прылада да выцягвання цвікоў. 2.Мохавае балота. 3.Усё, што выклікае вельмі непрыемнае пачуццё. 4.Патрэбы штодзённага жыцця. 5.Прыбор для замыкання і размыкання электрычнага ланцуга або для змянення напрамку току. 6.Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. 7.У жывапісе: перадача прадмета альбо фігуры ў перспектыве, з ілюзорным скарачэннем аддаленых ад папярэднягa плана частак. 8.Цэгласырэц з сумесі гліны, гною ды сечанай саломы. 9.Ахапак дроваў, сена, бялізны ды іншага.



**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N42 (489):**
1.Абідня. 2.Грацыя. 3.Трайня. 4.Вотня. 5.Аказія. 6.Грэбля. 7.Кельня.

ДЛЯ НЕДАСВЕДЧАНЫХ МУЖЧЫНАЎ

# Урокі чарадзейнага кахання

**Некаму заняткі каханнем прыносяць поўнае задавальненне, а некаму - расчараванне і непакой. Легкаверныя мужчыны, якія глытаюць усё, што чуюць ад сяброў пра іх сексуальныя перамогі, калі-нікалі адчуваюць сябе сканфужанымі адносна сваёй патэнцыі. Менавіта з-за перабольшаных уяўленняў пра секс варта памятаць простыя ісціны. Вось тыя правілы, якіх няблага было б трымацца мужчынам.**

1. Не дапускайце думкі, што жанчына ведае пра секс болей за Вас, што яна больш дасведчаная ў пытаннях сексу.

2. Пры папярэдніх ласках не абавязкова выконваць серыю спецыяльных трукаў. Калі вы бачыце адзін аднаго і ў вас адпаведны эмацыйны настрой, то нават нехлямяжыя заняткі каханнем будуць узбуджаць не горай за сексуальные ноу-хау і тэхнічна дасканалую папярэднюю падрыхтоўку.

3. Варта знайсці свае, індывідуальныя ўзроўні лёгкасці і сексуальнага камфорту. Не трэба займацца папярэднімі ласкамі ў напружанай, паспешлівай манеры альбо з пачуццём віны. Без спешкі лягчэй паспрабаваць новыя тэхнікі, расслабіцца і расказаць адзін аднаму пра свае глыбінныя патрэбы і патаемныя жаданні.

4. Новую палавую сувязь лепей пачынаць з самай «лёгкай», зручнай пазіцыі. Галоўнае, каб яна не была непажаданай для жанчыны. Эксперыментаваць лепш пасля таго, як вы прызвычаіліся адзін да аднаго.

5. Мужчына не павінен забіваць присвяціць некалькі хвілінаў стымуляцыі клітара жанчыны (калі - пацікаўцеся ў яе). Рабіць гэта трэба асцярожна, бо моцнае і нязграбнае націсканне на «нефрытавы пагорачак» можа хутка астудзіць жаданне жанчыны. Галоўнае - не саромецца запытацца ў партнёркі, што ёй прыемна, а што не.

6. Час ад часу мужчына можа паспрабаваць затрымаць свой аргазм, пакуль жанчына не дасягне свайго. Зрабіць гэта часам нялёгка, але магчыма. Сціскане «лінгама» пры набліжэнні аргазму на 3-4 секунды папярэджвае эякуляцыйныя скарачэнні. Не здолелі - папросту адчаіце «сакральнае зліццё», ці давядзіце жанчыну да экстазу стымуляваннем «салодкай жамчужынкі», што ля ўваходу ў «нефрытавы грот».

7. Абавязкова ўпэўніцеся, ці дасягнула жанчына «салодкага завяршэння». Не трэба зацыкліваца на думцы пра адначасовы аргазм. Проста атрымлівайце задавальненне!

**(Працяг будзе)**

# Скажы мне, як ты спіш...

**Адпаведна меркаванню нямецкіх навукоўцаў, пастава, у якой чалавек спіць, у значнай ступені вызначае рысы яго характару.**

Да прыкладу, тыя, хто спіць на жываце, вылучаюцца арганізаванасцю, пунктуальнасцю, дысцыплінаванасцю.

Хто спіць на баку з сагнутымі каленямі, як правіла, чалавек мяккі і расканавы, які спрыяльна ўздзейнічае на тых, з кім мае справы.

А Вы таксама спіце на баку, але з несагнутымі каленямі? Значыць, Вам лёгка прыстасоўвацца да новых умоваў, Вы добра адчуваеце сябе ў калектыве, імкнецеся да гармоніі ў асабістых узаемаадносінах.

Калі падчас сну Вы хапаецеся за падушку, то, відаць, пакутуеце ад адзіноты, прагнеце цяпла чалавечых зносінаў.

На спіне звычайна спяць людзі ўладарныя і амбіцыёзныя. Тыя, хто заўжды імкнецца знаходзіцца ў цэнтры падзеяў і дужа хваравіта ставіцца да пытанняў адносна сваёй кар'еры.



# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Справы, звязаныя з прыбыткам і заключэннем дамоваў, пойдуць найлепшым чынам. Аднак занадта вялікіх грошай чакаць не варта.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Праблемы з нерухомай маёмасцю, верагодна, вырашацца ў чацвер не без Вашага ўдзелу. Звяртайцеся па дапамогу да сваякоў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Абставіны складваюцца, безумоўна, на Вашу карысць: нават рызыкоўныя ідэі маюць шанец на поспех. Фартуна абяцае Вам удачны уік-энд.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Дапамога з боку сяброў значна палепшыць Ваша фінансавае становішча. Не ўскладняйце адносіны з каханай(-ым) і не сварыцеся з-за дробязяў.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Нарэшце праблемы знікнуць самі сабою і дома, і на працы. Не забывайцеся на свае непасрэдныя абавязкі.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Памятайце: справы справамі, аднак асабістае жыццё запускаць не варта. З каханнем жартаваць даволі небяспечна.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Мае сэнс перагледзець некаторыя планы на будучыню і хацяб крыху абмежаваць Вашыя выдаткі.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Гэты тыдзень будзе багаты на падзеі, у большасці сваёй, прыемныя. Здолееце вырашыць нават амаль безнадзейныя справы.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не засмучайцеся, як бы ні зрываліся Вашыя планы. Няма чаго турбавацца пра справы на любоўным фронце.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Ёсць верагоднасць патрапіць пад чужы ўплыў, калі будзеце захапляцца сумнёўнымі праектамі.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Хатнія турботы зоймуць у Вас надзвычай шмат часу. Пра нейкае асабістае жыццё давядзецца толькі марыць.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Не бойцеся высвятлення адносінаў з каханым чалавекам, галоўнае - трымацца годна і не выпрабоўваць на трываласць сваю нервовую сістэму.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл. 72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3 552 Наклад 7 357
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 22.11.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей